# Да нас пішуць

## ПРЫКЛАД ГОДНЫ НАСЬЛЕДВАНЬНЯ

У газэце «Бацькаўшчына», № 39(42), была надрукована зацемка «Да ўсіх беларусаў добрае волі», дзе гаварылсая аб цяжкім фінансавым становішчы выдавецтва нашае газэты. Кажны беларус павінен зразумець, што «Бацькаўшчына» зьяўляецца адзіным нашым абароньнікам і праваднікам, яна зьяўляецца для нас тэй пуцьцяводнай зоркай, якая паказвае й асьвятляе дарогу да лепшае будучыні Беларусі. Яна адзіная вядзе актыўнае змаганьне з тымі, хто трымае нашую Бацькаўшчыну ў ланцугох няволі. Грамадзкім абавязкам кажнага сумленнага беларуса — усімі сіламі й энэргіяй падтрымаць нашую нацыянальную газэту.

Я хачу ў гэтай зацемцы падзяліцца зь іншымі беларускімі групамі тым, як пастанавілі памагаць «Бацькаўшчыне» й Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту на Ангельскую зону беларусы зь лягеру ў Нортгайм.

Група нашая малая, бо налічвае толькі 11 сем'яў. За час існаваньня нашае групы, у нас не асталася ніводная беларуская акцыя неправедзенай, а сябры групы зьяўляюцца заўсёды чулымі й паслушнымі ў сваіх нацыянальных справах. Атрымаўшы 26.1.49 ад БНК на ангельскую зону зварот да ўсіх суродзічаў аб дапамозе Камітэту й зварот газэты «Бацькаўшчына» з 15.1.49 г., у нас быў склікяны спэцыяльны сход, які ў гэтай справе вынес наступную пастанову:

1. Праводзіць збор грошаў на дапамогу для БНК сыстэматычна раз у месяц і пераказваць іх на рахунак Камітэту.

2. Пагасіць усю задоўжанасьць газэце «Бацькаўшчына» да 1.2.49 г., аплаціць бягучую падпіску й усім тым, хто мае магчымасьць, скласьці ахвяры на выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны».

Адначасна мы беларусы зь лягеру Нортгайм зьвяртаемся да ўсіх беларусаў з наступным заклікам: Усімі сіламі павінны мы падтрымоўваць нашыя нацыянальныя арганізацыі, даваць ім рэгулярную штомесячную грашовую дапамогу так, як гэта зрабілі мы. Мы надзеімся, што, даведаўшыся аб нашым добрым пачынаньні беларускія сэрцы адчуюць тую грамадзкую павіннасьць, якая ляжыць на нас, і зробяць усё ад іх залежнае, каб нашыя нацыянальныя арганізацыі й газэта «Бацькаўшчына» маглі працаваць поўным ходам і безь ніякіх перашкодаў.

**(Лягер Нортгайм).** **В. С.**

## НАШ НАЦЫЯНАЛЬНЫ АБАВЯЗАК

На беларускую эміграцыю, якая расьцярушаная па ўсім сьвеце, выпаў вялікі абавязак — быць прадстаўніком свайго народу ў часы найбольшых перажываньняў, якіх зазнала нашая Бацькаўшчына на працягу сваей гісторыі. На ўсіх беларускіх землях замучаны народ маўчыць, ён закаваны ў ланцугі камуністычнай няволі. Ад яго імя выступаюць варожыя нам элемэнты—чужынцы, высланьнікі правакатарскай бальшавіцкай Масквы. І таму нашым пачэсным абавязкам ёсьць гаварыць ад імя нашага паняволенага народу і расказаць сьвету пра гэтыя нялюдзкія злачынствы, пра зьдзек, рабства і зьнішчэньне беларускага народу, якое нясе з сабой маскоўскі імпэрыялізм і камуністычная дыктатура. На ўвесь сьвет трэба крычаць пра маскоўскі абман, каб збудзіць сумленьне сьвету і зьвярнуць яго ўвагу на загрозу для ўсяе культуры, якую нясе з сабой камунізм.

Мы мусім пазнаёміць сьвет з нашай багатай гісторыяй, з нашымі культурнымі цэннасьцямі, змаганьнем у мінуўшчыне й сучасным змаганьні нашых гераічных партызанаў. А ці ў сіле мы выканаць гэтыя вялікія заданьні, якія ўзлажыла на нас гісторыя?

Пры добрай волі і супольных высілках мы зможам добра прыслужыцца нашаму народу. Паважная колькасьць беларускай эміграцыі, задзіночнай у розных арганізацыях, павінна не шкадаваць ні працы, ні высілкаў, ні часу, ні грошаў для вызвольнай справы.

Праца вядзецца без належнай фінансавай базы. Вотжа, каб нашая праца была пасьпяховай, дык яна пры дапамозе беларускага грамадзянства павінна плянавацца толькі цераз адну цэнтралю — Беларускі Нацыянальны Камітэт, які пастанаўляе, што рабіць, а што не.

Найдуцца напэўна такія «дэмакраты», што будуць закідаць недэмакратычнасьць, але для іх кароткі адказ—прэч з дывэрсыяй!

Маскоўскія агенты вядуць шалёнае змаганьне супраць вызвольнага руху кажнай нацыянальнасьці. Кажны вызвольны крок глушыцца агіднай маскоўскай дывэрсіяй.

Але ўжо недалёка той час, калі маскоўская турма народаў захістаецца на сваіх «едино-неделимских» падгнілых падвалінах і распадзецца на самастойныя сувэрэнныя, нацыянальныя дзяржавы.

Толькі тады на Ўсходзе Эўропы запануе мір і вольныя народы перастануць баяцца перад варварскай загрозай маскоўскага імпэрыялізму. Свабода паняволеным народам!

**Бамбэрг, 24.1.49).**

**А. Шавель.**

## СТАЛАСЯ ГЭТА Ў АРГЕНТЫНЕ

Два з палавінаю месяцаў таму назад, у мястэчку Бэрысо, прадмесьці гораду Ля Плята, а ўсяго 70 км. ад Буэнос Айрэс, здарыўся палітычна-крымінальны выпадак. Згодна апавяданьня аднаго беларуса зь Ля Плята, у Бэрысо быў брутальна замардаваны ў сваей собскай хаце беларус, які нядаўна прыбыў у Аргентыну з Англіі. Перад гэтым выпадкам ён меў вострую дыскусыю з тамашнімі камуністамі, якія, згодна прыпушчэньня раскашчыка й агульнай арыентацыі, даканалі крымінальнага чыну.

---

Бэрысо — гэта новы пасёлак, які прымыкае да самага гораду Ля Плята, пабудованы ў вапошнія гады перад другой сусьветнай вайной эмігрантамі беларусамі, украінцамі й палякамі, якія ўсе пагалоўна зьяўляюцца сяньня камуністымі. Там існуе «Беларусское Общество ім. Георгія Скарыны», якое ўходзіць у склад саюзу беларускіх арганізацый у Аргентыне, які ў сваю чаргу зьяўляецца сябрам «Уньён Эслава эн ля Аргентына» (камуністычная). На чале «Саюзу Беларускіх Арганізацыяў» стаіць беларус (як ён сябе называе) Трафім Лашук, які паходзіць зь Вялейскай акругі. Ён зьяўляецца дырэктарам газэты для «Белорусов у Аргентыне» — «Наш Голас», якая друкуецца на расейскай мове. Гэта газэта ёсьць копіяй газэты «Беларуская Зьвязда» зь некаторымі дадаткамі аб камуністычным жыцьці ў Аргентыне, што рэдагуецца ўрадаўцамі Савецкай Амбасады ў Буенос Айрэс. Да гэтагаТрафім Лашук зьяўляецца шэфам тайнай «міліцыі», якая створана летам 1948 году пад апекай савецкага прадстаўніцтва. Гэтая «міліцыя» мае за заданьне сьлядзіць за дзейнасьцю ўсіх новапрыбылых славянаў у Аргентыну й усякімі спосабамі перашкаджаць у іх нацыянальнай працы.

Як выглядае з вышэйшага, такія выпадкі могуць здарацца.

Забіты беларус у Бэрысо ня быў зарэгістраваны ў ЗБА, а дзеля гэтага Ўправе ЗБА не ўдалося даведацца ні яго пэрсанальных дадзеных, ні калі й якім чынам прыбыў у Аргентыну. На падставе рэляцыі вышэй успомненага беларуса, можам прыпушчаць, што ён быў у быўшай арміі Андэрса і прыехаў у Аргентыну на польскія дакумэнты, у выніку чаго быў зарэгістраваны ў паліцыі, як паляк. ЗБА, ня ведаючы яго паходжаньня ні прозьвішча, нідзе ня можа зрабіць ніякае інтэрвэнцыі, каб гэтым падаць да ведама адпаведным дзейнікам і звярнуць іхнюю ўвагу на будучыню.

Беларусы, якія прыяжджаюць у Аргентыну, не заўсёды й ня ўсе рэгіструюцца ў сваей арганізацыі. Як нам ведама, прыбыўшыя з Бэльгіі, Даніі, Аўстрыі й Ітлаіі навет не паказаліся ў арганізацыі, а аб іхным прыезьдзе ЗБА даведваецца ад асоб, якія робяць запытаньні аб іхнім тут жыцьці. Некаторыя больш нахабныя, як прыяжджаюць, прыходзяць да арганізацыі з мэтай дастаць матарыяльную або іншую дапамогу, але па апушчэньні Эміграцыйнага Гатэлю і па сякім такім уладжаньні, трацяць за сабою сьляды.

Такі падход да справы зьяўляецца антыграмадзкім і вельмі няўдачным. Антыграмадзкім таму, што калі камусьці ўдалося вырвацца з цяжкага палажэньня ў Эўропе, дык павінен пачувацца да абавязку памагчы тым, якія яшчэ асталіся ў такім палажэньні, у якім яны самі знаходзіліся ўчора, а гэта можна зрабіць толькі належачы да свае нацыянальнае арганізацыі. Будучы сябрам або хаця там зарэгістраваным, падлягае апецы праўнай, маральнай або навет і матарыяльнай, якую дае арганізацыя. Няўдзячным таму, што калі ЗБА вырабіла дазвол на ўезд і панясло пэўныя ў сувязі з гэтым кошты, дык тыя прыехаўшыя азбавязаныя ня толькі матарыяльна, але й маральна прылучыцца і надалей памагаць тым, якія патрабуюць помачы ў эміграцыі і г. д. Тлумачэньне труднасьцямі, якія спатыкаюць на пачатку ў новай краіне, і недахопам часу, ёсьць недастатковымі, бо сябры ЗБА таксама новапрыбыўшыя, жывуць у такім-жа самым асяродзьдзі і зарабляюць на жыцьцё, аднак робяць усё, што ляжыць у іхняй магчымасьці, каб пашырыць дзейнасьць арганізацыі ў розных кірунках.

Беларусы новапрыбываючыя ў заморскія краіны й ужо прыбыўшыя, да вас раблю гэты зварот: — уступайце ў свае нацыянальныя арганізацыі, рэгіструйцеся, навязвайце лучнасьць між сабою там, дзе няма яшчэ арганізацыі, каб залажыць такую, гэта ёсьць неабходным для нашага далейшага існаваньня.

Арганізацыя патрэбная: каб супольна бараніць нашыя нацыянальныя інтарэсы, каб забясьпечыцца ад такіх выпадкаў, які паданы вышэй, каб памагаць адзін аднаму ў новай нязнанай краіне, каб дапамагчы тым, якія яшчэ ў Эўропе і жадаюць выэміграваць, каб паказаць сьвету нашую арганізацыйную і жыцьцёвую здольнасьць, паказаць ім нашую культуру й абзнаёміць іх з нашымі імкненьнямі да вольнага жыцьця на Бацькаўшчыне.

Кажны з нас прайшоў школу жыцьця, кажны з нас знае, што ніхто і нідзе не паможа, калі сам сабе не паможаш, ніхто не заступіцца за слабога, а наадварот — памогуць толькі моцным. Кажны з нас, прыбываючы з Эўропы, карыстаўся з дабрадзействаў беларускіх нацыянальных арганізацыяў, установаў, камітэту ці там на месцы, ці за акіянам, за што мы знаходзімся ў даўгу для арганізацыяў, для грамадзства, і апынуўшыся ў лепшых абставінах жыцьцёвых, на нас ляжыць сьвяты абавязак ня толькі зьвярнуць узятае, але яшчэ далажыць да гэтай вялікай справы.

Дык да працы, супольнымі сіламі да лепшае будучыні!

Дык да змаганьня за Вольнасьць і Незалежнасьць Нашай Бацькаўшчыны!

**Буэнос Айрэс, 15.1.49).**

**К. Мерляк.**

## ПАПРАЎКА

У папярэднім (4(48) нумары нашае газэты з прычыны карэктарскага недагляду ў вартыкуле «Гутарка з польскім дацэнтам» апушчаны другі радок ад пачатку наступнага зьместу: «сяньня займаецеся гісторыяй нашага гаспадарства Вяліка—».

## НЕАБАСНАВАНЫЯ ПРЭТЭНСІІ

**(Ліст у Рэдакцыю)**

В. Кубіёвіч у вартыкуле «До проблемы сучасного національного стану посідання на українских землях» («Час»» 28.11.48) разглядае некаторыя беларускія землі, наймя заходняе Палесьсе і паўночную Чарнігаўшчыну, як тыя, што павінны, паводля яго, увайсьці ў склад будучае незалежнае Украіны. Ведама, што на гэтыя беларускія землі ўкраінцы ня маюць ніякага права. Але я тут хачу зацеміць толькі пра родную мне беларускую Чарнігаўшчыну, якую (часьць — Гароднёнскі пав. і некаторыя іншыя мясцовасьці — прылучаны да сав. Украіны, а бальшыня — да Маскоўшчыны) украінскія палітыкі імкнуцца замацаваць за Украінай назаўсёды. В. Кубіёвіч прызнае, што паўночную Чарнігаўшчыну засяляюць Беларусы, бо кажа, што «на Старадубшчыне», да якой па традыцыі залічае, відавочна, усю паўночную Чарнігаўшчыну, значыцца былыя паветы Старадубскі, Новазыбкаўскі, Гарадненскі, Сураскі, Мглінскі і хіба, пагранічныя мясцовасьці іншых паветаў, «моўны падклад беларускі», але там, бачыце, «украінская традыцыя», і на падставе гэтай традыцыі менаваныя беларускія землі, паводля Кубіёвіча, і — дадам ад сябе — многіх іншых украінцаў, павінны належыць да будучага ўкраінскага гаспадарства.

Што-ж гэна за ўкраінская традыцыя ў нашай Чарнігаўшчыне?

Паводля Адрусаўскага міру 1667 г. між беларускапольскай Рэчыпаспалітай і Масквою беларуская Чарнігаўшчына была прылучана да аўтаномнага ўкраінскага гаспадарства, т. зв. гэтманшчыны і была ў ім да 1784 г., калі ўкраіская гэтманшчына была Масквою зьліквідавана, значыцца ўсяго 117 год. Перад тым аднак паўночная Чарнігаўшчына належыла каля 400 год да свайго беларускага гаспадарства — Вялікага Княства Літоўскага. Ды калі ўжо мова пра гаспадарствавую традыцыю дык можна зазначыць, што ўся Украіна, з выняткам Галіччыны і часьці Падольля, звыш 200 год (да 1569) належыла да беларускага гаспадарства, а Украіна правабярэжная ад 1569 г. да 1793 г. належыла да Польшчы. Блага было-б з Украінаю, калі-б да яе тарнаваць гаспадарствавую традыцыю, як гэта робіць спадар Кубіёвіч із беларускай Чарнігаўшчынаю.

Відавочна ўкраінскія імпэрыялістыя тарнуюць готэнтоцкую этыку: нягодна, калі мой сусед адбярэ ў мяне маю жонку, але добра, калі я забяру ягоную. Я ня думаю, каб украінскім шавіністым удалося ўжыцьцявіць свае імпэрыялістычныя пляны. Усе нашыя «ліцьвіны» — даўнейшыя Северане — і слухаць ня хочуць пра належаньне да Украіны. Аднак сваім захопніцтвам такія ўкраінцы ў час вызваленьня й арганізаваньня сярэдня-усходняй Эўропы могуць нарабіць ёй, як і самой Украіне, шмат шкоды.

**«Ліцьвін» Сяўрук із Гародні.**

# Наш Фонд

Ад пачатку 1949 г. да сяньня на выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны» злажылі:

| | |
|---|---|
| 1. Сьцюмскі Павал (Італія) у матарыялах роўнавартасьцю | 25 н. м. |
| 2. Стэцько Пётра (ЗША) у далярах на суму | 24 н. м. |
| 3. Акула К. і Пітушка Я. (Канада) у матарыялах на суму | 130 н. м. |
| 4. Сільвановіч Міхась | 20 н. м. |
| 5. Кажура Пётра | 20 н. м. |
| 6. Дубяга Іван | 30 н. м. |
| 7. Васіленя Аляксей | 5 н. м. |
| 9. Беларусы лягеру Мітэнвальд | 50 н. м. |
| 9. Ясько Д. «Новы Запавет» 20 эгз. вартасьцю | 40 н. м. |
| 10. Каржанеўская Аўгеня | 9 н. м. |
| РАЗАМ | 353 н. м. |

Усім ахвяра даўцам складаем шчырую падзяку. Адначасна Адміністрацыя «Бацькаўшчыны» прыносіць вялікую падзяку сп. сп. Інж. Ханяўку Ч. (Мэнхэгоф), Стому В. (Мітэнвальд), Міцкевічу М. (Віндзішбэргердорф) і Даніловічу Б. (Маервік) за добры кальпартаж газэты й акуратнае праводжаньне разьлікаў з Адміністрацыяй на працягу 1948 г. Вельмі жадаем, каб у 1949 г. гэты добры прыклад узялі і ўсе іншыя кальпартэры й падпішчыкі.

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны».**

# Шукаюць...

Цана абвесткі — 10 фэнігаў за слова. Аплата наперад.

**Зайцаву Натальлю,** дачку Івана, нар. 1905 г., сына **Сяргея,** нар. 1942 г., і **Астапчыка Кастуся**, сына Пятра, нар. 1893 г., — Ліхач Агата.

Сыноў **Станковіча Ўладзімера** (мастак) і **Станковіча Валенціна** (артысты тэатру), якія да вайны жылі й працавалі ў Менску — Станковіч Міхал.

Дзядзьку **Пэнду Сьцяпана,** які выехаў у ЗША перад першай сусьветнай вайной, — Пэнда Мікалай.

**Просьба да беларусаў, пражываючых у ЗША:** шукаю дзядзьку **Хаценько,** сына Міхася (імя ня помню), які да 1925 г. пражываў у Нью-Ёрку, а магчыма й цяпер там жыве, — Хаценько Ўладзімер, сын Рамана.

**Ваяводзкую Гэлену** й яе дачку **Таісу Тамільчык** зь Менска — Раіса Дзятко.

Весткі просім слаць на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Whiteruthenian Weekly „The Fatherland"
Authorized by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 20 July 48, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies.
Administration: (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian, D.P.Camp.
Licensee: Wladimir Bortnik.
Edited by: Whiteruthenian National Commitee.
Printed by: Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 1a.